*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі! Францішак БАГУШЭВІЧ.*




# НАША СЛОВА

№ 7 •ВЕРАСЕНЬ• 1990 Бюлетэнь Таварыства Беларускай Мовы імя Францішка Скарыны. Кошт 20 кап.

## У НУМАРЫ:

**«НАША СЛОВА» Ў ПАРЛАМЕНЦЕ.**

Леанід Дзейка, Мітрапаліт Філарэт, Юры Беленькі, Зянон Пазьняк, Міхаіл Фарфель, Аляксандр Вярцінскі адказваюць на пытанне Рэгіны Гамзовіч.

Стар. 3

**СЯРГЕЙ ДУБАВЕЦ:**

Мова

Стар. 10

**В. МІХАСЁНАК ПРА БЕЛАРУСКІ ХУТАР.**

стар. 15

450 гадоў з дня нараджэння беларускага пісьменніка, перакладчыка на родную мову «Евангелля», вялікага асветніка і гуманіста Васіля Цяпінскага.



# ЗВАРОТ

## да працоўных калектываў рэспублікі

Як вядома, з 1 верасня 1990 г. пачаў ажыццяўляцца Закон аб мовах у Беларускай ССР, згодна з якім беларуская мова набыла дзяржаўны статус у суверэннай Беларускай рэспубліцы. Прыміце нашы віншаванні, паважаныя грамадзяне Беларусі, з уступленнем у сілу гэтага акта найвялікшага дзяржаўнага і грамадскага гучання і гуманістычнага зместу.

Беларуская рэспубліка, арыентуючыся на сусветную практыку, паслядоўна бярэ пад сваё апекаванне, ахову і абарону набыткі культуры і яе неад'емную частку — нацыянальную мову. Аднак бюджэтныя сродкі і матэрыяльныя рэсурсы БССР абмежаваныя — пераход да рынычнай эканомікі, ліквідацыя вынікаў чарнобыльскай катастрофы, рашэнне сацыяльна-эканамічных і экалагічных праграм патрабуюць значных высілкаў і матэрыяльных рэсурсаў. Урад рэспублікі не мае магчымасці ў кароткі тэрмін выдзеліць сродкі, якія дазволілі б значна паскорыць выкананне Дзяржаўнай праграмы па рэалізацыі Закона аб мовах у БССР.

У гэтай сувязі мы звяртаемся да працоўных калектываў рэспублікі незалежна ад ведамаснай ці пазаведамаснай прыналежнасці, да адміністрацыі прадпрыемстваў, гаспадарак, устаноў і арганізацый, а таксама кааператыўных аб'яднанняў усямерна садзейнічаць хуткаму ажыццяўленню Закона аб мовах у Беларускай ССР і адшукаць унутраныя фінансавыя сродкі і матэрыяльныя рэсурсы дзеля паскарэння паэтапнага выканання згаданай Дзяржаўнай праграмы.

Неацэнную ролю набывае актывізацыя грамадскага руху за адраджэнне беларускай мовы, у гэтай сувязі асаблівае значэнне мае наладжванне сувязі і супрацоўніцтва з Таварыствам беларускай мовы імя Францішка Скарыны, а таксама аказанне матэрыяльнай падтрымкі ў яго дзейнасці (разліковы рахунак ТБМ імя Ф. Скарыны: 700510 у Белжылсацбанку, 000700704 у Беларускім аддзяленні Знешнегандальбанку СССР).

Клопат пра культуру і мову — клопат пра будучыню народа!

**Першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Беларускай ССР**
**ШУШКЕВІЧ С. С.**
**Намеснік Старшыні Савета Міністраў Беларускай ССР**
**МАЗАЙ Н. М.**

# ПАСЯДЖЭННЕ АРГКАМІТЭТА БЕЛАРУСІСТАЎ

Як ужо паведамлялася ў друку, удзельнікі Міжнароднай канферэнцыі, прысвечанай 500-годдзю з дня нараджэння Францыска Скарыны, што адбывалася ў маі г. г. у Варшаве і на якой прысутнічалі прадстаўнікі з Балгарыі, ГДР, ЗША, Польшчы, Расіі і Беларусі, выступілі з ініцыятывай стварэння Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў (МАБ), якая мае на мэце спрыяць даследаванням па беларусазнаўству ў розных краінах свету, весці каардынацыю гэтых прац, абмен навуковай інфармацыяй, спрыяць падрыхтоўцы даследчыкаў-спецыялістаў у галіне беларусістыкі. Выбраны арганізацыйны камітэт, якому было даручана выпрацаваць праект Статута МАБ і пачаць падрыхтоўку да правядзення ў 1991 г. у Мінску ўстаноўчага кангрэса.

6 верасня г. г. у рамках Скарынаўскага свята адбылося пашыранае пасяджэнне арганізацыйнага камітэта асацыяцыі, у якім прынялі ўдзел беларусісты з Вялікабрытаніі, Германіі, Чэхаславакіі, Польшчы, а таксама з Расіі, Украіны, Беларусі, Літвы і Латвіі. Быў праведзены абмен думкамі пра мэты, задачы і структуры МАБ. Заслухаўшы інфармацыю пра падрыхтоўку ўстаноўчага кангрэсу МАБ, аргкамітэт вырашыў правесці яго ў 3-й дэкадзе мая 1991 г. Яму павінны папярэднічаць сходы і канферэнцыі нацыянальных і рэгіянальных арганізацый МАБ. У сувязі з гэтым мяркуецца таксама стварэнне рэспубліканскага згуртавання беларусазнаўцаў. Згодна з даручэннем ініцыятыўнага сходу, аргкамітэт папоўніўся прадстаўнікамі ад іншых рэспублік. Цяпер ён мае наступны склад: Адам Мальдзіс — старшыня (Беларусь), Генадзь Цыхун — сакратар (Беларусь), намеснікі старшыні — Томас Бэрд (ЗША), Джэймс Дзінглі (Вялікабрытанія), Карл Гутшміт (Германія), Міхал Кандрацюк (Польшча), Аляксей Каўка (Расія), сябры — Мірдза Абала (Латвія), Уладзімір Анічэнка (Беларусь), Альбэрт Барташэвіч (Польшча), Аляксандр Баршчэўскі (Польшча), Мікалай Бірыла (Беларусь), Іван Дзешка (Беларусь), Леў Караічаў (Беларусь), Вітаўт Кіпель (ЗША), Альма Лапінскене (Літва), Тадэвуш Левашкевіч (Польшча), Алег Лойка (Беларусь), Уладзімір Навумовіч (Беларусь), Мікалай Нікалаеў (Расія), Рыгор Піўтарак (Украіна), Вячаслаў Рагойша (Беларусь), Альжбета Смулкова (Польшча), Леў Шакун (Беларусь), Румяна Эўцімава (Балгарыя). Аргкамітэт абмеркаваў і прыняў праект Статута, які друкуецца ніжэй, і заклікаў беларусістаў свету ствараць нацыянальныя і рэгіянальныя арганізацыі МАБ.

**Генадзь ЦЫХУН.**

*Заканчэнне на 14-й стар.*

*ТРЫБУНА ДЭПУТАТА*

# «НАША СЛОВА» Ў ПАРЛАМЕНЦЕ

*Журналістка Рэгіна Гамзовіч звярнулася да некаторых дэпутатаў Вярхоўнага Савета БССР з пытаннем: «Як вы ставіцеся да праблемаў мовы ды нацыянальнай культуры ў Рэспубліцы?» Вось якія яна пачула адказы.*

Леанід Іванавіч Дзейка, інжынер-электронік механічнага завода з Клецка: я баюся, што прыняты Закон пра дзяржаўную мову, як і шмат якія іншыя законы, застанецца адно на паперы, а дзейнічаць не будзе. Я мяркую па тым, як працуе наша сесія. Амаль ніхто не размаўляе ў парламенце на беларускай мове. Дакументы, якія папярэдне распаўсюджваюцца на сесіі, друкуюцца чамусьці галоўным чынам на рускай мове. Я лічу, што мы спазніліся з беларусіфікацыяй на некалькі гадоў. Трэба было брацца за гэтую справу раней. Аднак беларусы яшчэ не пераступілі тую рысу, за якой пачынаецца нешта незваротнае. Таму пэўны аптымізм у мяне ёсць.

Мітрапаліт Філарэт:

На страницах нашего журнала «Вестник белорусского экзархата» мы печатаем странички и на белорусской мове, мы работаем сейчас над переводом Нового Завета на белорусский язык. И только тогда, когда Слово Божие будет переведено на белорусский язык, когда язык выдержит экзамен на зрелость (я так называю перевод Священного писания), когда отольются определенные понятия на языке, формулировки, тогда можно начать формировать правильно и богословие (его не было на белорусском языке никогда; были попытки, но не было системы). Белоруссизация церкви — процес, который не нужно торопить, но который не должен быть искусственно замедлен. Такой мой взгляд, небелоруса, на белорусскую проблему, которой я стараюсь помочь всеми моими возможностями.

Юры Адамавіч Беленькі, начальнік фінансавага аддзела Мінскага завода «Ударнік»: Калі прааналізаваць заняпад, у якім аказалася наша мова, дык робіцца зразумела: ён быў выкліканы тым ціскам, які рабіла таталітарная сістэма. Таму шлях да дэмакратыі — гэта шлях да адраджэння нашага народа. У 1988-м годзе я быў сведкам, калі некалькі чалавек з «Талакі» з плакатамі «За дзяржаўнасць мовы» збіралі подпісы ў людзей за адраджэнне нашае культуры ў парку імя Янкі Купалы. Іх проста разагнала міліцыя. Плакат зламалі. Хлопцам пазакручвалі рукі. Гэтакая палітыка выкручвання рук, адно ў іншым выглядзе, праводзіцца і зараз. Вось, каб гэтага не было, і патрэбна сапраўдная дэмакратыя. Я звяртаюся да нашай моладзі, каб яна пашырала дэмакратычны рух знізу, каб яна адчула, што належыць да вялікай нацыі.

Зянон Станіслававіч Пазьняк, старшыня Беларускага Народнага Фронту «Адраджэнне»: Сённяшні беларускі рух знізу з цяжкасцю прымае арганізацыйныя формы. Гэта вынікае з агульнага невялікага ўзроўню палітычнай культуры на Беларусі. А гэты невысокі ўзровень палітычнай культуры напрасткі звязаны з невысокім узроўнем нацыянальнай свядомасці. І таму гэтыя працэсы крочаць разам — і дэмакратызацыя, і адначасова вяртанне да каранёў культуры, усведамлення сваёй нацыянальнай прыналежнасці. Ёсць і яшчэ прычына: ў замаруджанасці грамадскіх зменаў, тыя людзі, якія бяруць актыўны ўдзел ва ўсіх грамадска-палітычных працэсах Рэспублікі,— гэта ўжо трэцяе пакаленне, якое вырасла пры бальшавізме. Гэта дарма не мінае. Семдзесят гадоў рабства застаюцца ўжо ў чалавечых генах. Вось самае страшнае, што зрабіў камунізм — ён даў магчымасць дурным людзям кіраваць разумнымі і знішчаць разумных. Знішчаць культуру. Гэты сіндром рабскай сістэмы, сіндром, які выяўляецца ў адсутнасці ініцыятывы ў людзей, спадзяванні на добрага цара, мы і маем у нашым грамадстве. Пісанне лістоў, зваротаў, збіранне подпісаў, нават тыя самыя мітынгі — гэта ўсё звароты на Некага (ці да добрага чыноўніка, ці да Вярхоўнага Савета, ці да добрага дэпутата...) Гэты перыяд павінны прайсці. Пасля яго зачнецца фарсіраванне грамадзянскай супольнасці, чаго ў сістэмах таталітарызму няма. А для гэтага патрэбны час. Сёння непакоіць тое, што яўны антыкамунізм выступае ў даволі неарганізаваных формах, стыхійна. У горшым выпадку гэта можа прывесці да тыраніі. Улада натоўпу заўсёды прыводзіць да тыраніі. Таму вельмі важна, каб палітычны ды культурны вакуум запоўніўся як мага хутчэй. Я часам згадваю пра Біблейскую прыпавесць: калі Майсей вывеў гебраяў з Егіпту, з рабства, і вадзіў 40 гадоў па пустыні, дык яны, гебраі, былі надта незадаволеныя. І не дзіва. У рабстве было добра (папрацаваў — цябе пакармілі; і гэтак штодня), а тут раптам вольны зрабіўся — і стала дрэнна жыць (ніхто не кажа, як і што рабіць). Рабу непатрэбна свабода. Майсей іх вадзіў сорак гадоў па пустыні, каб вымерлі рабы і нарадзілася новае пакаленне. І вось, калі нарадзілася новае пакаленне, дык і пачалося новае жыццё. Каб вырасла дрэва, патрэбны час. Для таго каб дрэва расло, патрэбны ўмовы. Цяпер мяне вельмі непакояць пытанні стварэння ўмоў для нашага росту.

Міхаіл Абрамавіч Фарфель, дырэктар школы. Я не ўяўляю сябе без беларускай культуры. Прадстаўнік любой нацыі, што жыве ў Рэспубліцы, павінны паважаць мову беларусаў. Я — яўрэй. Але Беларусь — мая Радзіма, яна дала мне ўсё. Што датычыць майго народу, які тут жыве побач з беларусамі, дык у яго тыя самыя праблемы, што і ў карэннай нацыі. І іх разам след вырашаць тут, у парламенце. Наш парламент адлюстроўвае стан спраў у грамадстве. Усе разумеюць, што не трэба саромецца роднае мовы, але мала хто гаворыць на ёй. Ёсць дэпутаты, якія публічна выракаюцца сваёй мовы. Мне за іх сорамна. Наогул, я занепакоены тым, як большасць дэпутатаў ставіцца да беларускай мовы. Калі ім не патрэбна свая мова, яны не зразумеюць, што мне, яўрэю, патрэбна мая.

Аляксандр Эдмундавіч Вярцінскі, намеснік старшыні Смаргонскага гарвыканкома. І я, і мая жонка скончылі ў Гродзенскім педінстытуце аддзяленне філфака. Так, што мы беларускую мову ведаем. Размаўляем на ёй у сям'і. І сын нядрэнна валодае родным словам. Вось на рабоце мне не заўсёды выпадае размаўляць па-беларуску. Чамусьці дагэтуль не прынята было гаварыць у дзяржаўных установах, як гаварылі нашы бацькі ды дзяды. Хаця апошняга часу я смялей гавару па-беларуску. Асабліва прыемна паразмаўляць з тымі, хто любіць і шануе прашчураўа слова. У грамадскай рабоце, у выступленнях на рабоце, у друку звяртаюся да людзей толькі па-беларуску; каб вярнуць мове прэстыж, трэба каб яна мела свабодны ўжытак ва ўсіх галінах нашага жыцця.




У ЧАСЕ ЎРАЧЫСТАСЦІ Ў БЕЛАРУСКІМ ТЭАТРЫ ОПЕРЫ І БАЛЕТУ

# ДЗЯКУЙ СКАРЫНУ

Яны маглі б панесці з нашае зямлі не толькі ўзоры сапраўднага мастацтва і сапраўднае культуры, не толькі слуцкія паясы, каштоўныя абразы, скарынаўскія кніжкі, не толькі вялікія скарбы — золата ды брыльянты. Яны, каб далі рады, дык забралі ўсё да апошняе цаглiны. Адзінае, што не здолелі б: пакрасці імёны, што прынеслі Беларусі несмяротную славу. Імёны гэтыя застаюцца назаўжды з тым краем, які іх спарадзіў. Знікне край — сканаюць і яны. А пакуль што памяць пра слынных сыноў Бацькаўшчыны жыве ў сэрцах нашчадкаў. Гэтаму прыклад і пяцьсотгоддзе Францішка Скарыны, што адзначылі мы ўсёй грамадою. І калі ў Менску ў Акадэміі навук на сесіі, што была прысвечана першадрукару, пайшла гаворка пра вяртанне нашых скарбаў дадому, дык бальшыня з прысутных горача вітала гэткую прапанову. І замежныя госці (сярод іх былі прафесар Карал Гутшміт з Бярліну, прафесар Джэймс Дзінглі з Лондану, Скарынаў праўнук Станіслаў-Стэнлі Скарына з Канады), і госці з саюзных рэспублікаў, і браткі-беларусы. Сёння беларускія каштоўнасці, якія параскрадалі з часу заваёвы Вялікага княства Літоўскага, знаходзяцца ў Маскве, Ленінградзе, Лондане, Вільні і ў іншых гарадох свету. Беларусы ж амаль нічога не маюць. Ды з тае прычыны мы бядуем па-свойму, па-беларуску, з ладнай пагудкаю. Ажно нашыя песні далёка ў свеце жывуць. Пачулі іх і ў ЮНЕСКА. Узялі ды абвясцілі там 1990 год годам Францішка Скарыны. Гэтак усей свет гудзе разам з беларусамі. Але ў Менску ды ў Полацку песні званчэйшыя, чымся ў іншых



*У Полацкай Сафіі.*

# ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ



У музеі кніжкі.

краёх. І не дзіва. Хто як не мы самі ўшануе першадрукара?

Што такое Скарынаўскае свята на Беларусі? Гэта, бадай што, паўсюдная ўрачыстасць. Відаць, няма гэткай вёскі, куды б яно не дайшло. У бібліятэках рабіліся кніжныя выставы, у раённых цэнтрах праходзілі фэсты,






Полацкія званы.

якія былі прысвечаны Скарыну. Тэлебачанне, радыё, газеты шырока асвятлялі пачэсную справу ўшанавання.

Скарынаўскае свята — гэта і сустрэчы. Сустрэчы на розных узроўнях. Пісьменнікаў з чытачамі, навукоўцаў з палітыкамі, замежнікаў з тутэйшым людам. Гэта яднанне ў высокім гуманістычным пачуцці, якое прынёс калісьці асветнік на нашую зямлю.

Гэта і вяселле, песні, забавы, якія вабілі людзей з чэргаў ля гандлёвых лаўкаў — на свята ў Полацку гандляры не пашкадавалі тавараў, што ў перадрыначным часе (ды ці толькі?) вельмі дарэчы. І гэта таксама свята — калі можна штосьці набыць, нават пастаяўшы ў чарзе.

Свята — гэта і вялікая работа супрацоўнікаў устаноў культуры, артыстаў, журналістаў, мясцовых уладаў, усіх тых, хто браў удзел у падрыхтоўцы і правядзенні ўрачыстасцяў. Запамінальнымі былі выступленні дзяржаўнага хора Белдзяржтэлерадыё, камернага хора выкладчыкаў з Полацка (яны выконвалі псалмы на вершы Семіёна Полацкага), артыстаў беларускіх тэатраў, ансамбляў «Харошкі», «Верасы», «Песняры» і шмат каго іншага. Свята нараджалася праз вялікі клопат і руплівасць тысячаў людзей.

Аднак галоўнае тое, што мы за апошнія гады ці не ўпершыню пачувалі сябе па-людску. Мы ўсе разам маглі свабодна выяўляць свае нацыянальныя пачуц-

(Заканчэнне на наступнай старонцы).

# ДА 500-ГОДДЗЯ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ

*(Заканчэнне. Пачатак на 4-й стар.).*

ці, і гэта нікога не злавала і не раздражняла, а нават радавала (нават па саюзнаму тэлебачанню надалі гэтае падзеі пэўную ўвагу). Мы пасталелі. Мы зірнулі самі на сябе і зразумелі: Францішак Скарына быў патрэбны нам не толькі як сусветная знакамітасць. Ён праз пяцьсот гадоў пасля свайго нараджэння стаўся нам духовым мацункам, повяззю, якая ўсіх нас у гэтыя дні злітавала ў адзіным гурце. Мы знячэўку здзівіліся з таго, што нас можа быць вельмі шмат.

І калі ўрачыстасць прыйшла ў горад над Заходняй Дзвіною, мала хто не адчуў святасці гэтае падзеі. Фэст у Полацку быў часткаю шматгадовых крывіцкіх спадзяванняў: старажытныя муры горада, якія багата пабачылі за сваё жыццё бяды ды радасці, віталі не толькі сваго старадаўняга жыхара, але і тое, што, відаць, аніколі не павыбіваюць з нашых русявых галоваў, не павытручаюць з нашых самотных душаў ніякія русіфікатары ці паланізатары — муры віталі нашую няскораную беларушчыну. Яна няўпынна гаманіла на вулках Полацка, у новым Музеі беларускага кнігадрукавання, у Крыжаўздзвіжанскай царкве, у святой Сафіі... І шмат хто ў гэтыя незабыўныя хвіліны прасякнуўся думкаю: мы разам з Францішкам Скарынам, нас паяднала з ім адна ідэя — ідэя Бацькаўшчыны і беларускае волі.

Таму дзякуй яму. Ён і праз паўтысячагоддзя пасля з'яўлення на гэтым свеце сваёй спадчынай заклікае нас хаця зрэдку паважліва паставіцца да саміх сябе.

**Лёнік ДУБРОВА.**



У часе ўрачыстасцяў у Стоўбцах.

Фота Анатоля КАЛЯДЫ і Уладзіміра КРУКА.



На Полацкай вуліцы.

Мікола АРОЧКА

## ПРАМАЎЛЕННЕ ДУХУ СКАРЫНЫ

### (З паэмы «Судны дзень Скарыны»)

*Духоўны род наш, вызнаўшы мяне,*
*Ужо ніколі ў вас не пратнецца.*
*Пад маім сэрцам пяць стагоддзяў б'ецца!*
*Ажыў мой дух у роднай старане.*

*Я родам — з Адраджэння, ды цяпер*
*Усім часам, прасторам я належу:*
*Прадонню — прахам, а душой — бязмежжу,*
*Іншабыццю разумна-чуйных сфер.*

*Я родам — з Адраджэння... І таму ж*
*Мяне ўзрушаюць так яго прыкметы!*
*Людскому свету ці стае Асветы,*
*Унутранай асветленасці душ?*

2

*Спачатку было слова, як калыска,*
*Дзе дрэмле нараджэнне новых сфер,*
*Прыстанішча, дзе я жыву цяпер,*
*Ад вас удалечы — і гэтак блізка!*

*Спазнаў я слова, як цялесны дух.*
*Ён з нас жывы струменіць, неўміручы.*
*Пачаў я сеяць гэты дар магучы:*
*Не азіраўся, ўзяўшыся за плуг.*

*Я множыў слова, адліваў у шрыфце,*
*На полі белым сыпаў, як з сяўні.*
*Патрэбна ж людзям столькі дабрыні*
*І мудрасці — без іх мы хто, скажыце?*

3

*Чаму сярод сузор'яў Задыяку,*
*Сярод прадоннай цвердзі, у сяйве,*
*Я не знайшоў Фяміды?.. Ні яе*
*Праўдзівасуднай Дзіке?*
*Ні слядоў, ні знаку!*

*Пакінутыя Вагі без прыгляду.*
*Шугаюць іх стыхіі і віры,*
*Метэарыты, зорныя вятры,*
*І змовы чорныя багоў, і звады.*

4

*Сусвету чашы дзве — што перацягне?*
*Бушуе хмельны баль... Галосіць плач...*
*Снуе мой дух над домам слёз, нястач.*
*Не духу — целу трэба баляванне!*

*Глынуў я шмат зямнога пеклавання.*
*Я ледзьве вызваліў душу з ярма!*
*Яна з вярхоўным розумам сама*
*Злілася, але прагне зноў вяртання!*

*Вяртання да зямлі сваёй, дзе дом*
*І цёплы дым па-над Дзвіной курыцца,*
*Каб там у дужым целе маладым*
*З праракаваннем вешчым адрадзіцца,*
*Каб не маглі ніколі заблудзіцца*
*Вы на шляху трывожным і крутым!*

Генадзь ТУМАШ

## БЕЛАЕ ПОЛЕ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ

*Белае поле, чорнае насенне,*
*хто яго сее, той разумее.*
*Беларуская народная загадка*

*Белае поле Францішка Скарыны —*
*Роднае поле народу, краіны.*
*Праўдаю поле засеяў мысляр,*
*Жыў спадзяваннямі першадрукар:*
*Каб чалавекам пажыў чалавек,*
*Злу не аддаўшы сумлення на здзек;*
*Каб у душы зарадзіла пшаніца,*
*А не драсён, не званец, не мятліца;*
*Каб збажына непрыступнай сцяной*
*Вынікла перад пачварнай маной;*
*Каб чалавечага розуму вочы*
*Бачылі прышласць і ў цемрадзі ночы.*

*Белае поле Францішка Скарыны —*
*Роднае поле народу, краіны.*
*Выпала нашаму беламу полю*
*Лютая, страшная, чорная доля.*
*Белае поле чарнела маной,*
*Што забуяла на праўдзе святой.*
*Як зарадзіў на раллі́цы званец,*
*Вучыць народ наш, то хлебу канец.*
*Зачаргавалі вякі насланне,*
*Белае поле глушыла хлусня.*
*Дзе прарастала Скарынава зерне,*
*Густа буяла паганае зелле.*

*Белае поле Францішка Скарыны —*
*Роднае поле народу, краіны.*
*Праглі спустошыць чужынцы, прыблуды*
*Глебу святую тутэйшага люду.*
*Праўдаю душы засеяў мысляр,*
*Нішчыў Скарынаву працу карчмар.*
*Цёмным празвалі народ чужакі,*
*Чынячы здзек і прыгнёт праз вякі.*

*Помніў пра белае поле народ*
*І не аддаў ні зярніны на звод.*
*Помніў пра белае поле Скарыны*
*І зачынаў, як заўсёды, сяўбіны.*
*Зерне святое і глеба святая —*
*Вось вам і ніўка ў душы залатая.*
*Гэтую ніўку ўрабляў ён вякамі*
*Рупна, як тую, што песціў рукамі.*
*І пад прыгнечаннем чуючы кліч,*
*Дбаў пра душу пракаветны крывіч.*
*Як ні глуміліся ў чорныя дні,*
*Ды не зацьмілі ў вачах дабрыні.*

*Белае поле Францішка Скарыны —*
*Роднае поле народу, краіны —*
*Родных чакала заўсёды зярнят,*
*Веку сцякло безнадзейнага шмат.*
*Кланяўся роднаму беламу полю*
*Сейбіт мужыцкае праўды і волі.*
*Будзе, ён верыў, тут жыта, як гай,*
*Сэрцы збагаціць людскія і край.*

*Толькі ізноў насланнё, недарод,*
*З белага поля сагналі народ,*
*Люд пазбаўлялі духоўнае велічы,*
*Белае чэрнячы, чорнае белячы.*
*Белае поле паэты нам троілі,*
*Хлеб каб нязводна ў хацінах мы кроілі.*
*Белае поле належыць народу,*
*Не мураўёвым, што неслі «свабоду».*
*Хай жа мінаюць яго недарод,*
*Зграі варожыя, набрыдзь і зброд.*

*Мірнае белае поле Скарыны —*
*Роднае поле народу, краіны.*
*Зычаць яму недароду і смерці*
*Нелюдзі толькі і воўчыя сэрцы.*
*Свеціць над полем хай вечна ў старонцы*
*Месяц Скарынаў, Скарынава Сонца.*
*Хай не зацьмяцца валошкі ад болю —*
*Вочы Скарынавы белага поля.*

# Покліч Бацькаўшчыны

Мала знойдзецца на свеце народаў з такім трагічным лёсам, як беларусы. Да святла, да Бацькаўшчыны, да саміх сябе цягам доўгіх стагоддзяў мы прабіваліся скрозь ману і здзекі, насмешкі і пагрозы, войны і эшафоты. Нам адмаўлялі ў праве мець свае ўласныя імёны — народа, Бацькаўшчыны, ужываць родную мову, рабілі манкуртамі, апалячвалі і русіфікавалі, падзялялі рэлігіямі, мовамі, дзяржаўнымі межамі, ідэалогіямі. Народжаных на торным шляху з Захаду на Усход, кавадлам Рэчы Паспалітай і молатам Расійскай Імперыі, нас выбівалі ў войнах — ад чвэрці да паловы насельніцтва краю, палавінілі, чацвярталі ў імя «высокіх» іншадзяржаўных інтарэсаў, гнаілі, перайтваралі ў лагерны пыл у гулагах і картузбярозах. Урэшце, сотня чарнобыльскіх хірасім упала на нашы галовы, жорстка выпрабоўваючы нас на трывушчасць — і як нацыю, і як чалавечую папуляцыю.

Сёння, на краі духоўнай і фізічнай пагібелі, мы спакваля пачынаем усведамляць: калі не выстаім, не ўмацуемся як нацыя, народ,— не застанемся на зямлі, не выжывем фізічна. Ці не пра гэта кажуць у цэлым марныя чатырохгадовыя намаганні па ліквідацыі чарнобыльскай катастрофы, дарэмныя спадзяванні на збяднелы Цэнтр і на багаты Захад? Толькі ўласнымі сіламі, пераўтварыўшыся з эгаістычнага, разнамаснага насельніцтва ў моцны духам народ-патрыёт, мы можам выбрацца з гэтай нечуванай бяды. Памятаеце ў Багушэвіча? «Шмат было такіх народаў, што страцілі найперш мову сваю, так як той чалавек прад сканнем, катораму мову займе, а потым і зусім замерлі. Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!» Пачалі мы з забыцця і ганьбавання сваёй мовы, родных каранёў, а канчаем абыякавасцю да суайчыннікаў, братоў-беларусаў, што трапілі ў бяду. Маю на ўвазе тую насцярожанасць, нават варожасць, што апраменьвае, часам горш за радыяцыю, перасяленцаў з Гомельшчыны ў некаторых беларускіх вёсках і гарадах, забруджаных нуклідамі касмапалітызму...

Пра ўсё гэта думалася ў часе ўстаноўчай канферэнцыі згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына», што адбылася 10 верасня гэтага года ў Мінскім Доме літаратара. На канферэнцыі прысутнічала звыш двухсот дэлегатаў — ад усіх абласцей і большасці раёнаў Беларусі, ад беларускіх суполак з Масквы, Ленінграда, Алма-Аты, Якуцка, Петразаводска, Мурманска, Вільні, Рыгі, Таліна і іншых гарадоў, з Беласточчыны. Гасцямі былі асобныя замежныя вучоныя, што прыехалі да нас на Скарынаўскі юбілей.

Старшыня аргкамітэта згуртавання Яўген Лецка, якому належыць сама ідэя арганізацыі і першыя крокі па яе ажыццяўленню, расказаў пра асноўныя мэты «Бацькаўшчыны», працу аргкамітэта, куды ўвайшлі вядомыя беларускія вучоныя, пісьменнікі, культурныя і дзяржаўныя дзеячы. А мэта згуртавання беларусаў свету адна — ўратаванне нацыі ад Чарнобыля духоўнага і Чарнобыля радыяцыйнага. А для гэтага ж трэба аб'яднаць беларусаў краіны і свету на практычную рэалізацыю палітычнага і эканамічнага суверэнітэту беларускага народа дзеля выратавання яго ад чарнобыльскай навалы, ад духоўнага, культурнага, экалагічнага, маральнага і этычнага заняпаду. Зноў, як і ў першыя паслярэвалюцыйныя гады, стала ўсё ўзаемазвязаным і ўзаемазалежным: духоўнае і фізічнае быццё народу, нацыянальная незалежнасць і эканамічнае развіццё, палітыка і культура. Бацькаўшчына кліча сваіх верных сыноў і дачок цяпер згуртавацца паміж сабою незалежна ад палітычных поглядаў, веравызнання, мовы, месца пражывання. Зрабіць гэта заклікае і «Бацькаўшчына», і не толькі этнічных беларусаў, але ўсіх, каму маці-Беларусь стала Радзімаю, хто хоча і можа працаваць дзеля яе сапраўднага адраджэння. Такія ці падобныя думкі прамаўлялі яшчэ ў сваіх вітальных словах пісьменнікі Васіль Быкаў і Рыгор Барадулін (у вершаваным пасланні «Да згуртавання беларусаў свету»), акадэмік АН БССР Радзім Гарэцкі. З цікавасцю дэлегаты канферэнцыі выслухалі выступленне міністра замежных спраў Беларусі Пятра Краўчанкі («Замежная палітыка БССР на новым этапе»), доктара юрыдычных навук Язэпа Юхо («Беларуская дзяржаўнасць: ад старажытнасці да нашых дзён»), доктара эканамічных навук Уладзіміра Кулажанкі («Ці здолеем пражыць незалежнымі»), старшага навуковага супрацоўніка АН БССР Міхася Малько («Чарнобыль і генацыд нацыі»), доктара філалагічных навук Адама Мальдзіса («Беларусь і яе сябры за мяжой»), пісьменніка Барыса Сачанкі («Праблема беларускай эміграцыі») і іншых. У некаторых дэлегатаў напачатку нават узнікла была боязь: каб не ператварыць устаноўчую канферэнцыю згуртавання ў чарговую навуковую канферэнцыю. Але гэтага не здарылася. Ну, на якім жа навуковым сімпозіуме святар (а гэта быў ксёндз Ян Матусевіч) пачне тварыць малітву за Беларускі Народ?! Ці на якім высокім вучоным зборы большасць выступленняў будзе заканчвацца заклікам «Жыве Беларусь!», на які зала адказвала б дружным «Жыве!»

У выступленнях дэлегатаў было нямала новай, цікавай інфармацыі «для роздуму», а таксама карысных і своечасовых прапаноў. Мае рацыю В. Грыцкевіч (Ленінград), што адной з асноўных задач «Бацькаўшчыны» павінна стаць асветніцкая дзейнасць, у тым ліку — арганізацыя нацыянальнага гістарычнага ўсенавуча. Беларускія гісторыкі, на жаль, стаяць у баку ад гэтага працэсу. За рэдкім выключэннем, нікога з іх не было на юбілейных скарынаўскіх мерапрыемствах.

Прагучала думка-прапанова: рэспубліканскае таварыства «Радзіма» трансфармаваць у «Бацькаўшчыну» (П. Садоўскі, Мінск). Аднак тут жа пайшлі і пярэчанні: гэтае таварыства не карыстаецца належнай папулярнасцю ў замежных беларусаў, на чале яго стаяць людзі, нацыянальная свядомасць якіх выклікае сумненні (В. Целеш, Рыга). А з беларусамі замежжа неабходна наладзіць як мага шчыльнейшы кантакт (Я. Шаляеў, Масква).

Нацыянальную свядомасць трэба ажыўляць і развіваць рознымі шляхамі. Найперш гэта можа рабіць спецыяльны друкаваны орган «Бацькаўшчыны» (Л. Валуй, Эстонія). Патрэбна нарэшце паўсюдна рэабілітаваць нацыянальную сімволіку і шырока карыстацца ёю як повяззю, што лучыць беларусаў ва ўсім свеце (М. Кулава, Мінск). У нацыянальным адраджэнні значную ролю можа адыграць рэлігія, з той, аднак, умовай, што набажэнства ў цэрквах і касцёлах будзе весціся на беларускай мове (Т. Фаменка, Эстонія). Пры ўсім тым нам патрэбна большая рашучасць: не дзяліцца на секты, не падлічваць, хто больш зрабіў для Радзімы, а рашуча тварыць сваю светлую будучыню (А. Анішчык, Вільня). У адраджэнні нацыі, станаўленні сапраўднага суверэнітэту Беларусі неацэнную паслугу можа аказаць беларуская нацыянальная армія (І. Сцепаненка, Казахстан).

Калі столькі нявырашаных праблемаў тут, на Беларусі, то што ўжо казаць пра становішча беларусаў за межамі Бацькаўшчыны? Прычым, гэтае становішча горшае, чым становішча адпаведных нацыянальных меншасцяў у БССР. Так, літоўскія настаўнікі, што працуюць у школах нашай рэспубліцы, атрымліваюць дзве зарплаты — ад нашага Міністэрства народнай адукацыі і ад літоўскага. Беларускія ж настаўнікі, што пачынаюць выкладаць беларускую мову і літаратуру для дзяцей-беларусаў у некаторых літоўскіх школах, мараць хаця б пра беларускія падручнікі і школьныя праграмы (П. Макадой, Літва). Рускія на Беларусі для задавальнення сваіх духоўных патрэбаў маюць усё. Беларусы ж у Расіі пакуль што не маюць ні радыё- і тэлепраграм, ні навучальных установаў (І. Ласкоў, Якуцiя). У той час як палякі ці апалячаныя беларусы атрымліваюць у нас штораз большыя культурна-асветныя магчымасці, беларусы Беласточчыны адчуваюць на сабе ўціск шавіністычных сілаў: адна за другой падпальваюцца праваслаўныя цэрквы, пад пагрозай закрыцца беларускі штотыднёвік «Ніва», у сродках сувязі нярэдкія зняважлівыя выказванні пра Беларусь і беларусаў... Таму польскія беларусы, каб абараніць свае інтарэсы і сваю нацыянальную годнасць, аб'ядноўваюцца ў беларускую дэмакратычную партыю, ад імя якой выказаўся на канферэнцыі яе старшыня пісьменнік Сакрат Яновіч.

Устаноўчая канферэнцыя «Бацькаўшчыны» прыняла Статут, Дэкларацыю пра сваё ўзнікненне і зварот да беларусаў свету, выбрала прадстаўнічую раду згуртавання і яе прэзідэнта. Прэзідэнтам «Бацькаўшчыны» аднадушна абраны народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў, старшынёй Рады — Яўген Лецка. Асноўныя цяперашнія клопаты Рады — дабіцца рэгістрацыі «Бацькаўшчыны», стварыць шматлікія суполкі згуртавання ў розных месцах Беларусі і па-за яе межамі, рыхтаваць Сусветны кангрэс беларусаў, што мае адбыцца недзе праз год.

Пасля рэгістрацыі «Бацькаўшчыны» ў дзяржаўных органах у яе будзе свая сядзіба і свой рахунак у банку. Пакуль што лісты просім дасылаць па адрасе: 220005, Мінск, вул. Фрунзе, 5, п. 101. Тэлефон: 36-29-70. Рада будзе ўдзячная ўсім асобам і установам за матэрыяльную дапамогу ў разгортванні дзейнасці згуртавання. Грошы можна пералічваць на рахунак 700510 Белжылсацбанка і валютны рахунак 000700704 у Знешнегандальбанку СССР (з паметкай «Бацькаўшчыне»).

Дык станьма, сябры, у шэрагі «Бацькаўшчыны»!

Бацькаўшчына кліча вас!

Вячаслаў **РАГОЙША**,
першы намеснік старшыні
рады «Бацькаўшчыны».



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

# КАБ ЗАКОН ЗАПРАЦАВАЎ

У нашым аб'яднанні Белбуднавука Дзяржбуда БССР група БНФ паспрабавала пачаць працу паводле ўвядзення ў справаводства беларускай мовы. Напісалі службовую запіску на імя кіраўніцтва, у якой пералічылі самыя першыя неабходныя мерапрыемствы. Адказу на яе, на жаль, фронтаўцы так і не дачакаліся; як бы нічога і не было.

Калі ж я з падобнай запіскаю звярнуўся ў Дзяржбуд БССР, то атрымаў ад намесніка старшыні Дзяржбуда т. Ластачкіна В. Г. адказ, у якім, між іншага, пісалася: «...что касается издания документов только на белорусском языке, то претворение в жизнь этого предложения возможно только после принятия Верховным Советом БССР соответствующего закона». Вось гэтак. Быццам і не было закону пра дзяржаўнасць беларускай мовы.

Гэтая пазіцыя адказнай асобы, гэты прыклад наводзіць на думку, што закон выкананы ў жыцці не будзе. Бачу ў гэтым дзве прычыны. Першая — занадта расцягнутыя тэрміны яго ўвядзення, другая — яго добраахвотны характар. Што датычыцца першага, то вытворцы закона, відаць, забылі, што Беларусь знаходзіцца не на востраве, а ў самым цэнтры Еўропы, дзе на яе ўплываюць вельмі моцныя плыні — руская і польская. Падзеі, што адбываюцца сярод беларусаў-каталікоў (якія апісвае А. Сідарэвіч) і сярод беларускіх дзелавых людзей (маю на ўвазе пашырэнне міжнародных сувязяў на базе рускай мовы), паказваюць, што марудзіць з адраджэннем беларускай духоўнасці (мовы) ніяк нельга. Што датычыцца добраахвотнасці ў выбары мовы суадносін у якасці беларускай самім народам, то рабіць на яе стаўку гэта вялікі наіў. Толькі нацыянальна свядомыя інтэлігенты могуць пайсці на ахвяры дзеля адраджэння мовы, асноўная ж маса беларусаў (як і любой іншай нацыі пры наяўнай ступені асіміляцыі) на гэтакія ахвяры не пойдзе. Жыццё народа заўсёды, і тым больш у наш час, вельмі напружанае. Ахвяраваць ён нічым не будзе. Зразумець жа, што пераход на родную мову гэта ёсць канец яго духоўнага рабства, большасць народа не можа, як яго не агітуй. Вытворцы добраахвотнага выбару памылкова лічаць, што прастора для ўспрымання культураў у чалавека нічым не абмежавана, як гэта было ў часы энцыклапедыстаў і нават у XIX стагоддзі, і што беларуская культура можа ўвайсці ў жыццё не пацяснiўшы іншае культуры, напрыклад, рускую. У канцы XX стагоддзя свабоднае прасторы для новых культур няма. Філосафы кажуць, што паміж пагардаю і павагаю не можа не ляжаць паласа змагання і нянавісці. Да гэтага часу беларускай моваю пагарджаў шмат хто, часцяком і самі беларусы. Зараз, калі мы хочам, каб яе паважалі, дык трэба набрацца смеласці і не ўхіляцца ад змагання, адкінуўшы тэрмін добраахвотнасці як фальшывы. Усе прыгнечаныя народы праходзілі гэты этап на сваім шляху да свабоды. Вось, напрыклад, як пачынае сваю кнігу «Проклятьем заклеймённые» вядомы ідэолаг трэцяга свету цёмнаскуры філосаф Ф. Фанон: «Якія б назвы не выкарыстоўваць, якія новыя формулы не ўводзіць — нацыянальнае вызваленне, нацыянальнае адраджэнне, вяртанне народу ягонай спадчыны, ягонай свядомасці — дэкаланізацыя заўсёды носіць гвалтоўны характар». Толькі, вядома, пад гвалтам ён не разумее фізічны гвалт.

Дзеля таго каб беларускае адраджэнне адбылося, лічу, што тэрмінова трэба скараціць плынь інфармацыі на рускай мове. Прапаную:

1) Усе кінафільмы розных краін, за выключэннем Расеі і Украіны, дубліраваць на беларускую мову. Накіраваць на працу па дубляжу ўсіх супрацоўнікаў «Беларусьфільма». Усё роўна з прычыны панавання рускае мовы і культуры на Беларусі нацыянальнага беларускага кіно не адбылося. Уся вытворчасць гэтага філіяла «Масфільма» збольшага носіць адбітак хлусні. Прапанаваць гэтай кінастудыі пачаць ствараць фільмы на гістарычныя тэмы Беларусі.

2) Спыніць часова друк на Беларусі і завоз з Расеі рускай класічнай літаратуры. Запасаў яе на Беларусі хопіць на некалькі дзесяцігоддзяў. Тым больш, што не хапае паперы, тым больш, што пераважная большасць рускіх пісьменнікаў адмоўна ставілася да беларушчыны, альбо абыякава. Большасць гэтай літаратуры выхоўвае ў чытачоў нацыянальны нігілізм і як яго вынік — бездухоўнасць.

Рэзка скараціць друк у БССР і ўвоз з Расеі рускай савецкай літаратуры. Справа ў тым, што ўсе асноўныя прагрэсіўныя ідэі, якія ў ёй ёсць, адначасова, альбо нават раней, выказваліся беларускімі савецкімі пісьменнікамі. Калі гэтага не зрабіць, выхаванне нацыянальных нігілістаў будзе працягвацца.

3) Спыніць паказ па Беларускаму тэлебачанню перадач небеларускай тэматыкі і на не беларускай мове. Увесці дадатковы беларускамоўны канал. Увесці на тэлебачанні час польскага, літоўскага і ўкраінскага тэлебачання.

4) Пераважную большасць перыядычнага друку на Беларусі з наступнага года зрабіць беларускамоўным. Пратэсты чытачоў, якія быццам не могуць чытаць па-беларуску, кваліфікаваць як правакацыю, паколькі для авалодання чытаннем друку на беларускай мове дастаткова 2—3 тыдні.

5) Зрабіць ільготныя ўмовы для друку мастацкай і навукова-тэхнічнай літаратуры на беларускай мове. Маю на ўвазе выдзяленне паперы, скарачэнне тэрмінаў друку (за кошт літаратуры на рускай мове), памяншэнне пералікаў гандлю за распаўсюджванне і г. д.

Такія, на мой погляд, патрабуюцца неадкладныя мерапрыемствы па ажыццяўленню дзейнасці Закона пра дзяржаўнасць беларускай мовы. Пакуль жа, як паказваюць падзеі, прынцып добраахвотнасці паспяхова пераўтвараецца ў прынцып добраахвотнага самагубства беларускай мовы.

П. БІЧ,
старшы навуковы супрацоўнік,
кандыдат тэхнічных навук.

Лявон ВАШКО

# ЗВЫЧКА

Проста Беларусы звыкліся самі з сабою. Звычка — то ўласцівасць другаснасці.

Калі пачаткаванне ўяўляе з сябе працэс спасціжэння і творчасці, дык другаснасць кліча да арганізацыі. Другаснасць, між іншага, нам гаворыць: вы чыёсьці паўтарэнне, таму шукайце сваю волю ў межах канона — звычкі, традыцыі, лада. Рух грамадства палягае на супярэчнасці між звычкаю (якая запавольвае апантанасць свежае ідэі) ды няўрымслівым імкненнем да навасці. Тармажэнне як частка гэтага руху не дае народу паляцець у прорву. Трагедыя нацыі ў сапсаваных тармазох. Ейнае паступовае знікненне ў нежаданні якіх-кольвек зрухаў.

Сёння нясе людству незадаволенасць уласнымі стодамі. Чалавеку надалей устыла іх прыдумляць і багоміць. Яны падман. Цяпер галоўнае пытанне (у спасціжэнні сваёй існасці) — ці не пытанне трансфармацыі шмат якіх паняццяў. Нам, відаць, звыш наканавана асэнсаваць знячэўнае ўзаемнае пераўтварэнне супрацьлегласцяў: дабра і зла, праўды і маны, ісціны і памылкі ды гэтак далей. Справа, аднак, у страце. Народам пачатковае Місіі і цягам апошніх стагоддзяў у пошуку гэтае Місіі.

Сталася ўжо завядзёнкаю: прагрэс ідзе да нас, але не ад нас. Прыкмета прыгоннага ў абуджаных спажывецкіх пачуццях і ў адсутнасці жадання ствараць каштоўнасці. Прагрэс, якім узброіліся прыгоннікі, мае вялікую нядобрасць для Беларусаў. Мы карыстаемся з яго не як валадары, а як паслугачы. Менавіта звычка ў гэтым разе жывіць засцерагальныя інстынкты Народу, замінае няўпыннаму разбурэнню нацыянальнае адметнасці праз навуковую ды тэхнічную рэвалюцыю. Разбурэнне гэтае ідзе па шляхох сцвярджэння чужацкае культуры ў Краю і шляхох вынішчэння Беларускае нацыянальнае культуры. Пранізлівай прапагандзе на Беларусі расейскіх духовых каштоўнасцяў праз навуку, літаратуру, журналістыку, кіно, уладу і дзяржаўныя установы — русіфікатарству, абрусіцельству — не падпарадкоўваецца зноў жа тая звычка, што калісьці паяднала Народ жаданнем быць Народам. Гэтае самае ўратавала нас і ў іншых варунках, калі дыктатура партакратыі панішчыла нацыянальную эліту, прывяла да розруху вёску — асяродак народнае культуры, пазачыняла Беларускія школкі ды пагнала мову літаральна з усіх установаў, калі цкавала людзей за тое, што яны імкнуліся размаўляць, як ім Богам дадзена, калі заахвочвала масавае перасяленне з Краю і інш.

(Звычка дапамагае і за іншым разам. Крывія бо мае вялікую шкоду з паланізатарства. Край беспрастанку адчуваў уціск і з боку пальшчызны. Гэты ўціск і сёння адбываецца на абшарах, якія знаходзяцца пад Польшчаю).

Выспяванне Народнае ідэі пад нацыянальным прыгнётам — то таксама спародзіва звычкі. Яна заклікае нас да працы на пацяробах, што засталіся пасля вынішчэння культуры. Мы маем працу не творцаў, а аднаўляльнікаў. У гэтым бяда і шчасце спадарства: другаснасць сталася нам

Заканчэнне на 10-й стар.

# МОВА

Сяргей ДУБАВЕЦ

Ёсьць рэчы, дарагія й неабходныя толькі мне. Ці — толькі табе. Гэта рэчы інтымныя. Напрыклад, ліст ці дзёньнік, у якія нельга зазіраць іншым. Ці — фотаздымак жанчыны зь дзіцем, які выцягнулі з нагруднае кішэні забітага салдата. Ужо глядзець на такі здымак — блюзьнерства.

Свая мова — гэта інтымная рэч нацыі, дарагая й неабходная толькі ёй. Без інтымнага (патаемнага) і чалавек, і нацыя — назвы, абалонкі, напхатыя нямаведама чым, толькі не сабою. І самае цікавае ў чалавеку — патаемнае, неразгаданае. Сакрэцік. Ніколі не зацікавіць чалавек, якога спазнаў ды «вычарпаў» адразу і да канца. Да дна. Таемнае ў чалавеку — невычэрпнае, як космас.

Яно ніколі ня здраджвае. Здрадзяць грошы, кабета, сябрук — але ня мова. Ёй няма дзеля каго здраджваць.

Таемнае і бароняць да канца. Сьлепа і безаглядна. Ні перад кім і чым ня спыніцца наш яшчэ жывы салдацік, калі ў яго раптам выкрадуць здымак жонкі і дачкі ды стануць шумна і па-салдацку язычліва «ацэньваць» яго. Параўнай, калі б выкралі грошы.

Адбяруць грошы — можна вярнуць. А не, дык урэшце як-небудзь. Адбяруць хлеб — знойдзем бульбу. Таму, хто адабраў, адабратаму,— рэальны набытак і карысьць: грошы і хлеб. Адбяруць радзіму і волю — ці ж нам упершыню?.. А яму, адабратаму,— палітычныя фішкі, танная рабсіла, тэрыторыя,— выгада. Ува ўсіх выпадках пакрыўджаны пачынае сваё змаганьне з агрэсарам — галавой, мазгамі. Ён дапускае кампрамісы.

З мовай інакш. Не нясе яна карысьці адабратаму. Ён ня стане гаварыць на ёй. Яму важна адабраць, каб вызваліць мейсца для свайго. А самая мова непатрэбная яму гэтаксама, як той здымак салдацкае ўдавы зь сіроткай. Ён адно насьмяецца й выкіне здымак.

І, памятаеш, калі наш салдацік кінуўся да рагатуноў, ён ня думаў мазгамі. Ён сэрцам кідаўся.

Калі закранутая годнасьць — кампрамісы недарэчы. Гэтую формулу высакародства прызнаюць уся сусьветная гісторыя і прыгожае пісьменства ўсіх часоў і народаў, нормы міжнароднага жыцьця і крымінальныя кодэксы. Толькі для нас адносна сваёй мовы яна застаецца недаказанаю тэарэмай.

* * *

Стагодзьдзямі адбіралі ў нас мову. То цалкам, то па сказе, па слову, па гуку. Не, мы не аддалі яе. Але мы дапусьцілі думку, што можам аддаць. Дапусьцілі, дапускалі і звыкліся. Таемнае перастала быць таемным. Запрацавалі галовы, мазгі, сталі магчымыя кампрамісы. Мы ўжо сям-там мянялі сваю мову на мовы мацнейшых: рымлянаў, палякаў, расейцаў. Апраўдваліся пры гэтым перад сабой ды іншымі і самі пачыналі верыць у свае выдуманыя апраўданьні.

Уяві, што наш салдацік дапусьціў думку, быццам жонка ягоная сьпіць зь іншым. Дапусьціў, дапускаў і — звыкся. А аднойчы пераглядаў кішэні, выцягнуў здымак, паўзіраўся і не без шкадаваньня кінуў яго ў дарожную калюгу...

Зразумела, гэтага ніхто не заўважыў, бо ён патаемнае выкінуў.

Што адбылося, што зьмянілася? А вось што. Неяк на прывале ён заўважыў, што з кішэні таварыша тырчыць белы ражок здымка. Ужо ён імкліва выхапіў фатаграфію і, звяртаючы да сябе ўвагу астатніх, пацяшаўся:

— Братва! Смотри-ка, а у Ивана бабёха ничего! Вот бы такую в темном уголке...— і зарагатаў.

* * *

У таемнага цана або адна — жыцьцё, або ніякай. Ня стомісься цягацца за золата, за хлеб, за волю... За мову — надакучыла. Яна ж — бясцэнак, бясцэнная.

Але. Як усе пакідаюць золата — і ты кінеш. Не ў цане, значыцца, золата. Як усе пяройдуць на рыс — і ты адсунеш у бок бульбу. Пажыўнейшы, выходзіць, рыс. Як усе зьміраюцца зь няволяй — і ты зьмірысься, затоісься. Але як нехта плюне на мову тваю, ён са сваёй застанецца, а ты?

А ты, «спрытны», падумаеш: «Не ў цане, значыць, мая мова, ягоная ў цане».

Хто ж ён такі, што раздае фатаграфіі свае жонкі: «Смотри, какая моя. Куда уж вашим!»? І хто такі ты, салдат, які ягоную жонку ды сабе — да грудзей, да сэрца: «Красивая у тебя жена, хороший снимок, подари, а?..»

Ён сваё інтымнае раздаў, раскрыў. І цяпер якое яно для яго інтымнае!? Ён сказаў табе:

— Выбрось свой язык недоразвитый. Мой бери, общий. Говори, чигирикай!

А ты:

— Так научи, брат, научи по-людски-то разговаривать... Ри-ба...

* * *

Неяк, служачы ў войску, я стаў пытацца ў сяброў-салдатаў лабавым пытаньнем: «Хто ты?» Эстонец кінуў мне ідучы: «Эстонец». Кіргіз сумеўся: «Кыргыз». Некалькі рускіх хлопцаў адказалі: «Человек», а мой зямляк цалкам сур'ёзна сказаў: «Сяржант»...

Чалавек — лісьцік вялікага дрэва... Дзе тваё дрэва, чалавек? Учора ты — піянер, сёньня — сяржант, заўтра — сьлесар ці журналіст, пазаўтра — труп. Дзе тваё дрэва?

* * *

Напэўна, многім маім землякам цяжка адказаць сабе на пытаньне: што ёсьць толькі маё, таемнае? Такія людзі звычайна пазьбягаюць глядзець у бяздоннае страшнае неба і суадносіць сваё зямное існаваньне з космасам. Бо што яны ў космасе? Пыл на пылінцы. Ім няма чым процістаяць космасу, бо няма ў іх свайго, унутранага космасу, няма тылу. Бо, выходзіць, апошні і самы надзейны тыл чалавека ў гэтым процістаяньні — яго патаемнае, тое адзінае, што ніколі-ніколі ня здрадзіць. Для нацыі гэта — свая мова. Калі ж ты пазычыў мову ў суседа — гэта ўжо не таемнае, не безабароннае (ёсьць каму і безь цябе бараніць), а значыць, і не самае надзейнае тваё апірышча, тыл. Ня твой тыл.

...Памятаеш, як ён, малы, бег за сваёй матуляй і, трымаючыся за крысо, хныкаў: «Ма-ма». А ты паазіраўся і, свае маткі ня ўбачыўшы, пабег поруч зь ім, і таксама: «Ма-ма»...

Калі кажуць, што ў сваёй хаце і мышы за гаспадара — не пра цябе гэта. Бо што табе ў суседзкай бакоўцы тыя мышы? І што ты ім? Сусед ня гоніць («Располагайся, всем хватит»), і — ляжы, душа, на чужым тапчане. А там, дома,— пустая хата: ня палена, ня мецена, як пад'есьці, дык гатаваць трэба, а гародчык зарос, а жывёла паздыхала, а вось і дах пацёк, а ўжо і праваліўся, і вянцы падгнілі... Ну, и черт с ним со всем! Сгниет — не сгорит! Поздно...

* * *

Нам позна. Нам на варшаўскім сейме 1697 года ўжо позна было. Але што да гэтага нашым нашчадкам?! Яны ж ня скажуць нам «дзякуй». Альбо таму, што слова гэтага ніхто ўжо ня ўспомніць, альбо таму, што нічога свайго мы ім не перадамо, не пакінем. Адно пазычанае. Такая «спадчына».

Чакайце... Ці чуеце голас нашага далёкага праўнука, што прабіваецца да нас з будучыні? Чуеце?

«Вы, якія першыя стаіце ў чарзе па інтэрнацыянал! Вы ж нічога з сабой не прынесьлі і нічога ў той інтэрнацыянал не дасьце. Дык, можа, вы прыйшлі браць? Але тут няма крама, мяшчане!

Прыйшлі беларусы — «самыя сарамяжлівыя» — БРАЦЬ!

Пустыя, нікчэмныя, лішнія на гэтай зямлі людзі...»

*1984 г.*

## ЗВЫЧКА

*Працяг. Пачатак на 9-й стар.*

самотаю па страчаным часе. Закон пра дзяржаўнасць Беларускае мовы адно водгук гэтае самоты. Дык мо ўсцешна дыхнем напоўніцу: звычка абуджае ў нас разуменне сваёй выключнасці, сваёй прыналежнасці да Народу. Праз гэткае разуменне мы знаходзім упэўненасць і жыццядайны мацунак. Мы не прыкладаем сцяжыну да будучыні на ўзор вольных народаў, мы спрабуем вярнуцца ў сваю гісторыю. Нашае заўтра там. Там нашыя ідэалы, там зачынаецца Місія Беларускага Народу. Згаданы Закон пра мову першы за гады савецкае ўлады зваротак да народнае душы на дзяржаўным узроўні. Кволы крок. Але пасля працяглае моўнае задухі гэта наўздзіў нечакана.

...Пачаткаванне мовы не ў першаснасці і не ў другаснасці. Мова сыходзіць разам з Духам звыш. Наш удзел у існаванні мовы і Духу мае надзвычайную повязь: чалавек спасцігае Дух праз моўныя сымболі. Мова не сканчаецца на паняцці «сродак зносін». Мова — то стан грамадства, стан спасціжэння Духу, стан самога Духу ў грамадстве і ў чалавеку; яна перадаецца нам праз найпрасцейшае — звычку.

# Анатоль БАГДАНОВІЧ



Сярод вучоных, якія закладалі асновы беларускага мовазнаўства, пачэснае месца належыць Анатолю Багдановічу. Нарадзіўся ён 28 (18 паводле старога стылю) жніўня 1888 года ў мястэчку Слабада-Дзісна Дрысенскага павета Віцебскай губерні ў сям'і святара. Пачатковую адукацыю атрымаў дома, а сярэднюю — у Віцебскай духоўнай семінарыі, якую скончыў у 1909 годзе. Затым паступіў у Варшаўскі універсітэт на гістарычна-філалагічны факультэт.

Рэктарам Варшаўскага універсітэта тады быў Яфім Карскі, нястомны даследчык сваёй роднай беларускай мовы і культуры. Сярод студэнтаў-землякоў ён меў вялікую пашану і ўласным творчым прыкладам зрабіў значны ўплыў на фармаванне іх навуковых зацікаўленняў. А. Багдановіч ужо з першага курса стаў цікавіцца беларускай вуснай народнай творчасцю, вывучаць старую і новую беларускую літаратуру.

Пасля сканчэння універсітэта ў 1913 годзе Анатоль Багдановіч выкладаў рускую мову і літаратуру ў школах, служыў у войску. У 1924 годзе Віцебшчына, якая да гэтага была ў складзе Расійскай федэрацыі, адыйшла да Беларусі. Адразу ж пачалася беларусізацыя яе дзяржаўных, грамадскіх і навучальных устаноў. Значную ролю ў гэтай важнай справе адыгрывала мясцовае краязнаўчае таварыства. Багдановіч, як актыўны яго сябра, выступаў перад насельніцтвам з лекцыямі і дакладамі пра беларускую культуру, вёў заняткі па беларускай мове на розных курсах перападрыхтоўкі настаўнікаў, разгортваў шырокую асветніцкую дзейнасць. У 1925 годзе ён напісаў і выдаў брашуру «Новая беларуская літаратура», у якой коратка, але вельмі кваліфікавана вызначыў творчасць найбольш вядомых беларускіх пісьменнікаў канца XIX і пачатку XX стагоддзяў — Ф. Багушэвіча, Я. Лучыны, Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, Цёткі, К. Каганца, Ядвігіна Ш., К. Буйлы, З. Бядулі, Ц. Гартнага, А. Гурло, М. Чарота і іншых. «Мала гаварыць і многа сказаць — вось галоўная каштоўнасць гэтай кніжачкі»,— пісаў адзін з рэцэнзентаў пра гэтую брашуру.

У тым самым 1925 годзе А. Багдановіч апублікаваў на старонках часопіса «Полымя» артыкул «Аб неўсталяваных выпадках нашага правапісу», у якім абгрунтаваў свае прапановы наконт ужывання на пісьме ў і й, перадачы некаторых галосных і зычных у складаных і запазычаных словах.

Ужо сваімі першымі публікацыямі А. Багдановіч засведчыў, што ён здольны філолаг. Таму Народны камісарыят асветы і запрасіў яго на працу ў Беларускі дзяржаўны універсітэт. Вучоны прыняў запрашэнне і з 10 лютага 1926 года стаў працаваць дацэнтам кафедры беларускай мовы. Выкладчыцкую працу ён спалучаў з навуковай і грамадскай. «Для мяне гэта быў час,— прыгадваў А. Багдановіч пазней у аўтабіяграфічных нататках,— калі я адчуваў у сабе найвялікшы ўздым і ахвоту, захопленасць сваёй працай. Усведамляў сябе як актыўнага ўдзельніка пабудовы новай беларускай культуры».

Анатоль Багдановіч пасля пераезду ў Менск шмат пісаў. Так, у сакавіку таго самага 1926 года пад грыфам «Матэрыялы да Акадэмічнае канферэнцыі беларускага правапісу і азбукі» Інбелкульт выдаў яго брашуру «Увагі да праекту аб рэформе правапісу», у якой аўтар даказваў патрэбу зберагчы на пісьме марфалагічны прынцып пры перадачы зычных гукаў і пераважна фанетычны — пры перадачы галосных. А менавіта: на месцы ўсякага ненаціскнога о пасля цвёрдых зычных пісаць а, у тым ліку і ў словах іншамоўных, а ненаціскныя галосныя сярэдняга і ніжняга пад'ёму ў першым складзе перад націскам пасля мяккіх зычных перадаваць праз я, ва ўсіх жа іншых ненаціскных складах — праз е.

У 1927 годзе ў Беларускім дзяржаўным выдавецтве выйшаў падручнік А. Багдановіча «Беларуская мова», прызначаны для тэхнікумаў і самаадукацыі. Ад іншых тагачасных падручнікаў — практычных граматык — ён істотна адрозніваўся як зместам, так і будовай. Гэта быў своеасаблівы тэарэтычны курс беларускай мовы з элементамі яе гісторыі, параўнальнага і агульнага мовазнаўства. Агульнаму мовазнаўству прысвечана ўся першая частка падручніка — «Уводзіны». Другая частка — «Беларуская мова» — складаецца з раздзелаў, прысвечаных фанетыцы, марфалогіі, сінтаксісу і правапісу. Тут канкрэтныя факты сучаснай беларускай мовы аўтар разглядае ў супастаўленні з аналагічнымі фактамі рускай, украінскай, а часам і іншых славянскіх моваў. Асабліва грунтоўна, з шырокім выкарыстаннем звестак па агульным мовазнаўстве і гісторыі беларускай мовы, напісаны раздзел аб правапісе.

Цікавы быў і яшчэ адзін навучальны дапаможнік — «Самавучыцель па беларускай мове», які, аднак, чамусьці не быў выдадзены. Рукапіс яго захоўваецца ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў бібліятэкі АН БССР. У аўтарскай прадмове да «Самавучыцеля», датаванай 14 студзеня 1927 года, сказана, што ён прызначаецца «для асоб, якія добра ўладаюць расійскай мовай і знаёмы з яе граматыкай». Гэтая практычная прызначанасць вызначыла змест і структуру навучальнага дапаможніка.

Анатоль Багдановіч быў не толькі дацэнтам універсітэта, ён адначасна працаваў і ў Інбелкульце, на пасадзе сакратара Камісіі беларускай літаратурнай мовы, а з кастрычніка 1927 года яшчэ і сакратара новастворанай Правапіснай камісіі. У прыгаданых вышэй аўтабіяграфічных нататках А. Багдановіч паведамляе пра яшчэ дзве навуковыя працы, якія былі напісаны ім у канцы 20-х — пачатку 30-х гадоў: «Матэрыялы да гісторыі беларускай графікі» (для выстаўкі «Новая пісьменнасць народаў СССР») і «Беларускі правапіс і яго рэформа». На жаль, ніводная з гэтых завершаных навуковых прац, рукапісы якіх не збераглiся, не пабачыла свету. Прычынай былі рэпрэсіі супраць беларускай інтэлігенцыі, якія пачаліся на пачатку 30-х гадоў.

Анатоль Багдановіч, для таго часу спецыяліст высокай кваліфікацыі, вучоны-філолаг даволі шырокага профілю, быў звольнены з пасады сакратара Камісіі беларускай літаратурнай мовы ў АН БССР, а потым і з пасады дацэнта Беларускага дзяржаўнага вышэйшага педагагічнага інстытута, дзе працаваў па сумяшчальніцтве з 1931 года. Застаючыся фармальна сакратаром Правапіснай камісіі, ён выкладаў беларускую мову ў Камвузе. Аднак гэтая праца не задавальняла А. Багдановіча як вучонага, бо фактычна зводзілася да навучання слухачоў толькі элементарнаму ўменню практычнага валодання беларускай мовай. Тым больш, што неўзабаве Камвуз быў пераўтвораны ў Вышэйшую беларускую сельскагаспадарчую школу, у навучальных праграмах якой беларускай мове адводзілася надзвычай сціплае месца.

Не маючы магчымасцяў для поўнага выкарыстання сваіх ведаў і здольнасцяў, а галоўнае — жывучы пад нязменнай пагрозай арышту, А. Багдановіч вырашыў падацца з Беларусі. Ён працаваў у Астраханскім, Магнітагорскім, Краснадарскім, а затым — у Херсонскім педагагічных інстытутах. Там галоўным аб'ектам ягоных навуковых даследаванняў стала руская мова. Так, у сааўтарстве з іншымі выкладчыкамі Краснадарскага педінстытута ён стварыў падручнік па рускай мове для адыгейскіх школ, часта выступаў з мовазнаўчымі і метадычнымі артыкуламі ў перыядычным друку.

Памёр А. Багдановіч 2 жніўня 1969 года. Незадоўга перад гэтым ён наведаў Мінск і ў размове са знаёмымі выказаў шкадаванне, што па волі лёсу доўгі час пражыў па-за межамі роднай зямлі і быў пазбаўлены магчымасці займацца развіццём беларускай навукі і культуры.

**І. ГЕРМАНОВІЧ.**

## «7 ДЗЁН»... БЕЗ РОДНАГА СЛОВА?

Цяпер мне асабіста зразумела, чаму многіх беларускіх журналістаў, якія працуюць у «афіцыйных» выданнях, часцяком абвінавачваюць у здрадніцтве. Зразумееў я гэта пасля таго, як у газеце «7 дней» з'явіўся артыкул пад сімптаматычнай назваю «Сверим позиции». Дык якая ж пазіцыя ў газеты? Вось цытую: «В связи с убыточностью белорусского варианта (звярніце ўвагу на гэтае: «белорусского варианта»! — А. М.), еженедельник будет выходить только на русском языке. (Из 170 тыс. человек, получающих ныне нашу газету, лишь 4.348 предпочитают читать ее на белорусском.)

Што гэта? Фантасмагорыя? Ды не, пасля 1 верасня, пасля пачатку святкавання 500-годдзя Ф. Скарыны, пасля ўступлення ў дзеянне «Закона аб мовах у БССР», «пазіцыя» рэдакцыі газеты і яе рэдактара А. Пранішнікава выглядае як няўмысны гандаль роднай мовай, гандаль аўтарытэтам беларускага журналіста. Вельмі паказальна і тое, што «7 дней» з'яўляецца органам БЕЛТА і СМ БССР.

У чым жа праяўляецца здрадніцтва газеты «7 дней»? У тым, што яны хочуць быць рускай газетай? Не! У тым, што яны не адгукнуліся на «Зварот» Камісіі па адукацыі, культуры і гістарычнай спадчыны аб пашырэнні ўжытку роднай мовы? Ды не. «Пазіцыя» «7 дней» у тым, што яны хоць і набралі сабе тыраж 170.000 асобнікаў у руска-беларускім варыянце (а значыць і з дапамогай беларускай мовы!), вырашылі яшчэ больш прывабіць «читателя», выкінуўшы роднае слова са сваіх старонак увогуле.

Беларуска-руская газета — неабходнасць нашага пераходнага лінгвістычнага часу. Сам працую ў такой. «Вяснянкай» завецца. Нас таксама вельмі турбуюць праблемы падпіскі і тыражу. Але ж у нас, дзякаваць Богу, ніхто не дадумаўся да такога абсурду — забараніць на сваіх старонках роднае слова! «7 дней» робіць гэта з вялікай лёгкасцю...

Анатоль МЯЛЬГУЙ,
журналіст.

## ЯК ПАЗБАВІЦЦА «ТРАСЯНКІ»

Усе мы ведаем, што на Беларусі ўзнікла і існуе пад уплывам палітыкі «зліцця моваў» асаблівая гаворка — «трасянка». Супраць гэтай ганебнай з'явы амаль нічога не робіцца.

На маю думку, у гэтай справе мог бы дапамагчы і даведнік беларускага моўнага этыкету, які можна стварыць па ўзору гэтакіх даведнікаў, што выдае «Высшая школа» ў Маскве. Называюцца яны «Речевой этикет, русско-немецкие (и друг.) соответствия». Гэтакі даведнік мае 94 старонкі і каштуе 15 капейкаў. У анатацыі да выдання пішыцца, што ў ім змешчаныя правілы моўных паводзінаў, даюцца шмат якія прыклады вітанняў, развітванняў, падзякаў, прабачэнняў, віншаванняў, звароткаў да знаёмцаў і невядомых людзей, іншых нормаў паводзінаў у розных варунках.

Для складання і выдання такога даведніка не спатрэбіцца шмат часу. А карысць будзе вялікая.

Франц ГІНТАЎТ,
г. Гродна.

## ВЕРАСЕНЬ

— Сёння я ў агародзе нічога не рабіла, — кажа маці,— свята, багач...

Яна, шчырая каталічка, вядома ж, не выконвае адпаведнага абраду і ўшаноўвае не паганскага бога, а лічыцца з касцельным святам, прысвечаным Божай Маці. Ды ўсё ж называе яго, як і даўней, бо памяць зберагла спрадвечнае сялянскае свята.

Прыйшоў багач — кідай рагач, бяры сявеньку ды сей памаленьку... І маглі нашы продкі назваць першы месяц восені багачом. Не горшай была б і назва сеянь, падобна, як і папярэдні жнівень.

Цвіў верас...

Нат у такую клапатлівую для нашых продкаў пару яны бачылі прыгажосць.

Але заўважылі не толькі пачуцці. Верас — адзін з цікавейшых прадстаўнікоў расліннага сямейства верасовых, якое мае каля 1350 відаў. Сярод іх — вядомыя брусніцы, чарніцы, дурніцы, журавіны. Ды і верас вылучаецца не толькі тым, што цвіце на схіле лета і ўвосень, аздабляе пясчаныя пагоркі, бары, лясныя дарогі, а верасовы мёд — апошні шчодры летні дарунак пчолам.

Верас — скарбонка дасканалых лекаў. Напар з нарыхтаваных улетку галінак з лісткамі і кветкамі раяць піць пры рэўматызму, пры некаторых хваробах нярвовай сістэмы — бяссоніцы, пярэпалаху — самае лякарства для нашага часу! У сумясях з іншымі зёлкамі кветкі верасу выкарыстоўваюць для лячэння розных хваробаў сэрца, мачавога пухіра і нырак. Нездарма навуковая назва верасу Calluna паходзіць ад грэчаскага слова kalluno — чысты.

Цікавыя і яго біялагічныя ўласцівасці. Увесь час верас, хаця і любіць сухія мясціны, дасканала прыстасаваўся і да балотных умоў. Расліна не можа браць патрэбныя сокі, ваду з халоднай і вільготнай глебы, якая такім чынам становіцца нібы «сухой». А сцябло вераса не гніе ў вільгаці, бо ўтрымлівае дубільныя рэчывы, праз што і выкарыстоўваецца дзе-нідзе для апрацоўкі скур і фарбавання іх у жоўты колер.

Іншыя славяне ўзялі для назвы першага месяца восені — руен, рюен — праславянскае слова реўці ці падобнае стараіндыйскае раўці, ад якіх пайшло і слова роў (гон у дзікіх жывёлаў). Нашы ўсходнія суседзі пазычылі назву ад рымлянаў — сентябрь (сёмы месяц).

Цвіце верас.

«Полымя ружовых верасоў...»

Здзіслаў СІЦЬКО.




Не так даўно Таварыства Беларускай Мовы імя Францішка Скарыны і рэдакцыю бюлетэня «Наша слова» наведаў загадчык кафедры Беларускай літаратуры Лонданскага універсітэта Джэймс Дзінглі (на здымку ў цэнтры). Размова, зразумела, пайшла пра Беларусь...

Фота Анатоля КАЛЯДЫ.

# НОВАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Людцы, чым болей нас, тым лепей! І ў Казахстане адшукаліся Беларусы. У горадзе Прыазерску Джазказганскае вобласці стварылі яны гарадскую раду Таварыства Беларускай Мовы імя Францішка Скарыны. Заняліся асветніцкай дзейнасцю. Гэтак у жніўні з'явіўся першы нумар незалежнае беларускае газеты «Рокаш». За эпіграф беларускае спадарства ўзяло словы з верша Максіма Багдановіча: «...Біце ў сэрца іх, біце мячамі. Не давайце чужынцамі быць...» У прадмове рэдакцыі да чытачоў гаворыцца:

«Рокаш» — старабеларускае слова і абазначае бунт, паўстанне. Газета «Рокаш» будзе клікаць вас на духоўны бунт, на бунт супроць тых, хто нішчыў і нішчыць нашу мову, нашу культуру, нашу дзяржаву.

Мы ўзялі за эпіграф словы Максіма Багдановіча. І адпаведна гэтым словам мы пастараемся накіраваць усю сваю нянавісць супроць тых, хто здрадзіў роднай мове, хто таптаў і нішчыў яе, хто адракаўся ад яе за смачны кусок ці цёплае мейсца. Мы супроць нацыянальных «юдаў». Мы супроць пустадомкаў і недаверкаў. Мы супроць рабскае пакоры. Мы супроць абыякавасці.

Мы падтрымаем кожнага, хто любіць Беларусь, пастараемся данесці наша цяпло да тых, хто змагаецца за беларускую мову.

Мы з павагай адносімся да людзей другіх нацый і глыбока паважаем іх правы на мову, культуру, свабоду.

Мы абяцаем не дапусціць у газеце ні аднаго слова зняважлівага для якога-небудзь народа, але хай не просяць літасці беларусы, прадаўшыя нацыянальнае сумленне».

У нумары друкуюць свае матэрыялы Яраслаў Грынькевіч («Знайсці сваё мейсца», паводле ўвядзення Закона пра мову), Станіслаў Суднік («Беларусь, беларуская мова і рэлігія»), Ігар Супаненка («Суверэнітэт Беларусі і вакол яго»), даецца інфармацыя пра дзейнасць аргкамітэта згуртавання «Бацькаўшчына». Змешчаны таксама вершы «Суд» і «Прамова да мовы» Станіслава Судніка.

Нумар падрыхтавалі Станіслаў Суднік, Ігар Супаненка, Вячаслаў Лычак. Газета друкуецца тэхнічным шрыфтам у два колеры на дыхтоўнай паперы. Распаўсюджваецца яна бясплатна.

Прапануем вашай увазе верш Станіслава Судніка, змешчаны ў першым нумары «Рокаша».

## СУД

Гэй, устаньце, беларусы,
На суд мацяры-зямлі,
Адкажыце, беларусы,
Вы за колькі прадалі

Мову нашу, мову маці,
Мову пушчаў і бароў,
Мову Койданаўскай рацці
І Грунвальдскіх ваяроў?

Мову Коласа, Купалы
Вы за колькі прадалі?
Трыццаць срэбнікаў, не мала,
За радзімую ўзялі.

Вы ўзялі якой манетай:
Франкам, фунтам ці рублём,
Можа вы яшчэ пры гэтым
Іншым хапнулі дабром?

Можа вы ўзялі чынамі,
Дабрабытам гарадскім,
Дарагімі лахманамі...
Ці ж хапіла хоць усім?

Можа ў прыпражку вы з мовай
І сумленне прадалі,
За яго «мараллю» новай
Ці «культурай» узялі?

Дык хутчэй жа іх хавайце,
Маркі, долары, рублі,
Рукі з мылам адмывайце,
Трыце, чысціце ў зямлі.

Мо яна, зямля, паможа
Срэбны пыл саскрэбці з вас,
Ды схаваць усіх не зможа
Ад расплаты. Прыдзе час —

Вас спытаюць вашы дзеці,
Што пакінулі вы ім,
А ў адказ вы зазванеце
Срэбрам Юдавым сваім,

Раскажыце слова ў слова,
Як зракліся той зямлі,
Як сваю культуру, мову,
Як свой гонар прадалі.

# МОЖНА І ГЭТАК

**Чатырнаццатага верасня выйшаў першы на беларускай мове нумар «Аўтазаводца». З гэтага часу раз на тыдзень газета будзе цалкам беларускамоўная. Гэта зроблена згодна з загадам, які быў падпісаны генеральным дырэктарам ВА «Белаўтамаз» і старшынёй прафкама аб'яднання. Мы змяшчаем дакумент цалкам. З яго бачна, што беларускую справу можна рабіць і гэтакім чынам.**

Загад-пастанова

**«Аб падрыхтоўцы да ўвядзення ў дзеянне «Закона БССР аб мовах у Беларускай ССР» на Мінскім аўтазаводзе».**

1 верасня 1990 года ўступае ў дзеянне Закон БССР пра мовы ў Беларускай ССР. Для выканання тэрмінаў увядзення палажэнняў Закона ва ўсе галіны гаспадарчай і грамадскай дзейнасці ВА «БелаўтаМАЗ» генеральная дырэкцыя і прэзідыум прафсаюзнага камітэта

ПАСТАНАЎЛЯЮЦЬ:

1. Заключыць да 30 жніўня 1990 года дамову з заводам «Рамбыттэхніка» пра замену ў друкаваных машынках наступных знакаў:
— знак «§» на «і»
— знак «%» на «ў»
— знак 0 (нуль) на «'» (апостраф), ці знак «ъ» (вялікі) на «'» (апостраф).

Адказны: нач. АГА КАСЦЮКОЎСКІ С. У.
Тэрмін выканання дагавора да 30.10.90 г.

1.1. Начальніку АГА т. Касцюкоўскаму С. У. набыць 2 машынкі з беларускім шрыфтам для машбюро і заводскай канцылярыі.
Тэрмін: да 30.03.90 г.

2. Набыць для вытворчасцяў, цэхаў, для прафсаюзных і іншых органаў руска-беларускія і беларуска-рускія слоўнікі.
Адказныя: намеснік старшыні прафкама ЛАВІЦКІ М. Е.
Нач. УБУСК ДУБЧОНАК Л. І.

3. Намесніку начальніка ўпраўлення па падрыхтоўцы кадраў т. Озераву У. Ц. правесці падрыхтоўчую работу па набыццю навучальна-метадычных і дыдактычных дапаможнікаў; навучальнай літаратуры. Вывучыць магчымасць прыцягнення выкладчыкаў беларускай мовы навучальных устаноў для правядзення заняткаў з работнікамі завода.
Тэрмін да 1998 г.

4. Упраўленню арганізацыі працы і заработку (нач. Ярашэўскі А. А.) даць прапанову па змяненню палажэння паводле прэміравання з мэтаю заахвочвання машыністак, якія друкуюць дзвюма мовамі і валодаюць імі.
Тэрмін: да 15.09.90 г.

4.1. Сумесна з упраўленнем кадраў вызначыць асобаў, якія ведаюць беларускую канцылярска-тэхнічную тэрміналогію для перакладу бланкаў, фармуляраў, запатрабаванняў, інструкцыяў і іншых матэрыялаў, і ўвесці адпаведную даплату за пераклады і кансультацыі.
Тэрмін: да 15.09.90 г.

5. Прапанаваць рэдакцыі радыёгазеты перайсці з 1.09.90 г. на дзяржаўную мову Беларускай ССР.

6. Улічваючы станоўчы вопыт выпуску ў газеце «Автозаводец» старонак на беларускай мове, прапанаваць рэдакцыі выпускаць газету 1 раз на тыдзень цалкам на беларускай мове.

7. Гаспадарчым кіраўнікам грамадскіх арганізацыяў у тэрмін да 30.10.90 г. перагледзець афіцыйныя бланкі, фармуляры з мэтай паступовага пераходу справаводства на дзяржаўную мову БССР.

8. Прапанаваць СПК МАЗ, прафкаму і іншым грамадскім арганізацыям Мінскага аўтазавода рыхтаваць правядзенне агульназаводскіх сходаў і канферэнцый на дзяржаўнай мове БССР.

9. Галоўнаму бухгалтару т. Дубчонак Л. І. забяспечыць фінансаванне прадугледжаных мерапрыемстваў.

10. Кантроль за выкананнем загада-пастановы ўскласці на памочніка генеральнага дырэктара Чумака Р. І., старшыню камісіі па культурна-масавай рабоце прафкама аб'яднання «БелаўтаМАЗ» Лавіцкага М. Е.

Генеральны дырэктар ВА «БелаўтаМАЗ».
М. Ф. ЛАЎРЫНОВІЧ.
Старшыня прафкама аб'яднання
В. Р. ДЫБАЛЬ.

# СТАТУТ

Праект

# Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў (МАБ)

*Працяг. Пачатак на 2-й стар.*

## I. Агульныя прынцыпы і задачы

1.0. Міжнародная асацыяцыя беларусістаў аб'ядноўвае навукоўцаў, дзеячаў культуры, перакладчыкаў розных краін свету, якія даследуюць культурныя здабыткі беларускага народа і спрыяюць іх пашырэнню, садзейнічаюць нацыянальнаму адраджэнню і развіццю беларусаў, умацаванню сувязей з культурамі іншых народаў і краін.

1.1. Асацыяцыя складаецца з раўнапраўных нацыянальных і рэгіянальных асяродкаў і ў сваёй дзейнасці выкарыстоўвае навуковы і творчы патэнцыял Акадэміі навук Беларусі, Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны, вышэйшых навучальных устаноў, Саюза пісьменнікаў Беларусі і іншых творчых саюзаў рэспублікі, а таксама беларусазнаўчых цэнтраў свету. МАБ супрацоўнічае з Таварыствам Беларускай Мовы, Згуртаваннем беларусаў свету «Бацькаўшчына», Міжнародным камітэтам славістаў, Міжнароднай асацыяцыяй па вывучэнні і распаўсюджванні славянскіх культур (МАВРСК), Беларускім фондам культуры, Міжнародным фондам славянскага пісьменства і славянскіх культур, іншымі спрыяльнымі арганізацыямі і установамі.

## II. Арганізацыйныя асновы, кіруючыя органы і структура

2.0. Асновай МАБ з'яўляюцца нацыянальныя і рэгіянальныя арганізацыі даследчыкаў і пашыральнікаў беларускай культуры, якія дзейнічаюць у адпаведнасці з гэтым Статутам. У якасці нацыянальных і рэгіянальных арганізацый могуць выступаць адпаведныя нацыянальныя камітэты славістаў, МАВРСК і іншыя навуковыя і грамадскія аб'яднанні.

2.1. Нацыянальныя і рэгіянальныя арганізацыі прымаюцца ў склад МАБ Міжнародным кангрэсам беларусістаў на падставе рэкамендацый Міжнароднага камітэта беларусістаў.

2,2. Вышэйшым органам МАБ з'яўляецца Міжнародны кангрэс беларусістаў, які склікаецца раз у тры-чатыры гады. Дэлегаты кангрэса выбіраюцца нацыянальнымі і рэгіянальнымі арганізацыямі ў адпаведнасці з квотай, якую вызначае Міжнародны камітэт беларусістаў.

2.3. Міжнародны кангрэс беларусістаў прымае Статут МАБ і ўносіць змены ў яго, абмяркоўвае найбольш важныя праблемы беларусазнаўства, пытанні арганізацыі і каардынацыі работы, выбірае кіруючыя органы, заслухоўвае іх справаздачы, утварае пастаянныя камісіі.

2.4. У час паміж кангрэсамі кіруючымі органамі МАБ з'яўляюцца выбраныя на іх Міжнародны камітэт беларусістаў і Рэвізійная камісія, сядзіба якіх знаходзіцца ў сталіцы Беларусі Мінску. У сваёй дзейнасці яны кіруюцца Статутам і іншымі дакументамі, прынятымі на кангрэсах.

2.5. Міжнародны камітэт беларусістаў мае наступную структуру:

Бюро камітэта:

а) прэзідэнт;

б) чатыры віцэ-прэзідэнты, якія прадстаўляюць асноўныя рэгіёны дзейнасці МАБ;

в) вучоны сакратар;

г) кіраўнікі камісій МАБ;

д) скарбнік.

Сябры камітэта:

прадстаўнікі нацыянальных і рэгіянальных арганізацый МАБ (адзін прадстаўнік ад арганізацыі, што налічвае да 10 сяброў, і два прадстаўнікі ад арганізацый з большай колькасцю сяброў).

2.6. Міжнародны камітэт беларусістаў, які збіраецца не радзей аднаго раза ў год, праводзіць наступную работу:

а) каардынуе работу нацыянальных і рэгіянальных арганізацый беларусістаў, садзейнічае ажыццяўленню міжнародных праектаў, выкладанню беларускай мовы, літаратуры, гісторыі, культуры ў навучальных установах за межамі Беларусі;

б) плануе і рыхтуе правядзенне міжнародных кангрэсаў, зацвярджае іх праграмы і квоту прадстаўніцтва;

в) разглядае заявы нацыянальных і рэгіянальных арганізацый аб прыняцці іх у МАБ;

г) арганізуе абмен навуковай і мастацкай літаратурай, а таксама бібліяграфічнай інфармацыяй;

д) дапамагае ў рабоце Міжнароднай школы беларусістаў пры падборы выкладчыкаў і слухачоў;

е) рэкамендуе для выбрання ганаровых членаў асацыяцыі, устанаўлівае прэміі за найбольш значныя працы па беларусазнаўству;

ж) выдае бюлетэнь МАБ, садзейнічае выданню літаратуры па беларусазнаўству.

2.7. Паміж пасяджэннямі Міжнароднага камітэта беларусістаў усю бягучую работу вядзе бюро МАБ.

2.8. Уся дзейнасць сяброў Міжнароднага камітэта беларусістаў і яго бюро грунтуецца на дабраахвотных пачатках. Для бягучай работы прадугледжваецца штатная адзінка тэхнічнага сакратара, які вядзе дакументацыю і карэспандэнцыю, а таксама скарбніка і рэдактара бюлетэня.

2.9. Нацыянальныя і рэгіянальныя арганізацыі ствараюцца пры наяўнасці не менш трох сяброў. Яны рэгіструюцца Міжнародным камітэтам беларусістаў на падставе заявы, пратакола ўстаноўчага сходу і запоўненых анкет сяброў МАБ. Дзейнасць нацыянальных і рэгіянальных арганізацый засноўваецца на ўласных статутах, якія не пярэчаць Статуту МАБ.

2.10. Сябрамі нацыянальных і рэгіянальных арганізацый з'яўляюцца навукоўцы, выкладчыкі, перакладчыкі, работнікі культуры, што маюць навуковыя і іншыя працы па беларусазнаўству і спрыяюць развіццю беларусістыкі, пашырэнню беларускай культуры ў свеце.

## III. Фінансы

3.0. Прыбыткі МАБ складаюцца з адлічэнняў ад уступных і штогадовых складак сяброў нацыянальных і рэгіянальных арганізацый, даходаў ад выдавецкай і іншай дзейнасці, а таксама з дабраахвотных укладаў ад асоб і арганізацый-фундатараў МАБ.

3.1. Міжнародны камітэт беларусістаў карыстаецца правамі юрыдычнай асобы, мае круглую пячатку і штэмпель са сваім найменнем (беларускай і англійскай мовамі).

3.2. МАБ стварае спецыяльны фонд, дзеля чаго мае ўласныя рахункі ў банку ў рублях і замежнай валюце.

3.3. МАБ можа весці кааператыўную дзейнасць (у межах, прадугледжаных заканадаўствам).

3.4. Сродкі МАБ па рашэнні Міжнароднага камітэта беларусістаў і яго бюро выдаткоўваюцца на правядзенне міжнародных кангрэсаў, пасяджэнняў камітэта і камісій, выдавецкую дзейнасць, устанаўленне прэмій за найбольш значныя працы па беларусазнаўству, выплату стыпендый маладым даследчыкам-беларусістам, набыццё літаратуры для абмену, аплату штатных супрацоўнікаў, а таксама на іншыя патрэбы, звязаныя з пашырэннем беларускай культуры.

3.5. Кожны член МАБ лічыць абавязкам прыслаць як мінімум адзін экземпляр кожнай сваёй беларусазнаўчай працы або перакладу кіраўніцтву асацыяцыі для выкарыстання ў адпаведнасці з мэтамі і задачамі МАБ.

# НА БЕЛАРУСКІМ ХУТАРЫ

Беларускіх хутароў кожнага году робіцца меней. Знікаюць і іхнія гаспадары.

Адметнасць таго хутара, пра які хачу распавесці, у тым, што гаспадары яго незвычайныя людзі. Ён месціцца на былым узмежжы БССР і Заходняй Беларусі. За метраў трыста ад яго туліцца паміж пагоркаў невялічкая вёсачка Шапавалы. Таму і пра хутар кажуць у навакollі — Шапавалаўскі. І яшчэ называюць яго інакш — хата Камаеда. Часцяком тут бываюць і вучні з навакольных школак, і настаўнікі, і краязнаўцы. Акрамя гасціннасці гаспадароў, вабіць на хутар аматараў беларушчыны багатая на заходнебеларускія выданні бібліятэка. У ёй часопісы, календары, газеты, кніжкі. А яшчэ фанатэка з кружэлак галоўным чынам міжваеннага перыяду. З іх чуваць голас Забэйды-Суміцкага, Козіна, Палонскага, Казлоўскага і іншых спевакоў.

Зойдзеш, бывала, прытаміўшыся ў грыбах ці на паляванні да дзядзькі Юзіка і адчуваеш, што ты тут не за лішняга.

— Хадзі-хадзі сюды, толькі вазьмі сіта, яно вісіць у сенцах,— нягучна і павольна гаворыць дзядзька Юзік,— дапаможаш глянуць, што ў борцях робіцца.

Ахутваю твар сітам і прастую да старой ліпы, што поўніцца водарам мёду і зумканнем пчолаў. Гаспадар нетаропка варушыць мяхі куродыма. Працуем моўчкі. Затое потым, за сталом, дзядзька Юзік любіць паразважаць шмат пра што, гладзячы свае шляхецкія вусы, наліваючы мядовую чарку.

Помніў Восіп Ігнатавіч з мінулага жыцця як палітычнага, так і гаспадарчага шмат. Сам быў калісь сябрам беларускай сялянска-работніцкай грамады і Таварыства беларускай школы, выпісваў шмат газетаў і часопісаў, купляў за мізэрныя сялянскія грошы беларускія календары ды кніжкі. У тых часопісах ды календарах знойдзеш шмат карыснага і для гаспадаркі і пра цэны на хлеб ды мяса даведаешся, і пра тое, як лячыць коні, як разводзіць і даглядаць пчолы і садок, і пра шмат што іншае. Разгорнеш такую вось газету ці кніжку і нібыта трапляеш у беларускую старасвеччыну. Гэтак і не заўважыш, што зачытаўся да сярэдначы. Час ісці дадому, а дзядзька Юзік знікае на хвіліну, адно чуеш, як караскаецца па лесвіцы на гарышча. Неўзабаве прыносіць стос гадавікоў «Беларускай Крыніцы» ці «Нашай думкі». Гэтак раніцу прычакаю, яшчэ і з сабою дасць чціва.

— Не баяліся трымаць такую літаратуру ў гады рэпрэсіяў? — запытаўся неяк у Восіпа Ігнатавіча.— Тут жа шмат дзе палітыка Сталіна крытыкуецца.

— Ды даводзілася прыхоўваць, а знішчаць усё гэта было шкада. Хацелася, каб пра наша жыццё даведаліся ўнукі. Таму даводзілася рызыкаваць, — растлумачыў Восіп Ігнатавіч і паказаў на жонку: — Шмат яна зберагла.

Ганне Сымонаўне сёлета споўнілася восемдзесят. З гімназічных гадоў яна захавала любоў да беларушчыны. Ганна Сымонаўна былая навучэнка Радашкавіцкай беларускай гімназіі (той самай, дзе вучыліся ейны брат Мікола Абрамчык з Сычавіч і Максім Танк). Добрым словам кажа пра настаўнікаў, якія навучылі яе любіць сваё роднае, пра заснавальніка і фундатара гімназіі Аляксандра Уласава.

Калі выйшла замуж за Камаеда, дык купілі сабе вось гэты хутар. Каб давесці гаспадарку да ладу, давялося папрацаваць. Цяпер на хутар з задавальненнем на гасціны прыязджаюць унукі ды ўнучкі — дочкі і сын Камаедаў працуюць у Мінску. Улетку шмат работы, дык трэба дапамагчы па гаспадарцы. Іншая справа зімою, калі ёсць вольны час. Тады дзядзька Юзік праторыць сцежку да суседзяў у Шапавалы, каб згуляць там у карты ці шашкі. А бывае, адшукае любімую кружэлку і заслухаецца дарагой мелодыяй...

Нядаўна ён памёр. На хутары ўзнікла праблема з вадою. Прыгінаюць гады Ганну Сымонаўну, але менавіта праз яе дбанне хата Камаеда яшчэ жыве. Шмат тут хто пабываў за гады існавання хутара. Часта прыязджаў сюды нябожчык Ф. М. Янкоўскі. Бывалі тут і Максім Лужанін, і Барыс Сачанка, і Генадзь Каханоўскі, і настаўнікі Дуброўскай школы. Вярталіся адсюль людзі не з пустымі рукамі, а з цікавай літаратураю, адмысловымі экспанатамі для школьных музеяў.

Я часцяком сёння думаю: хай бы не зарасталі сцежкі да беларускіх хутароў, хай бы іх гаспадары мелі моцнае здароўе!

**В. МІХАСЕНАК.**



Сёлета сярэдняя спецыяльная музычная школа пры Беларускай Дзяржаўнай кансерваторыі імя А. В. Луначарскага пераўтворана ў Беларускі музычны ліцэй. Закончыўшы першыя класы ў звычайных школах, прыйшло сюды новае папаўненне будучых музыкаў. Дырэкцыя ліцэя і Міністэрства культуры БССР пайшлі насустрач пажаданням бацькоў — у ліцэі адкрыўся клас з беларускаю моваю навучання. Вучыць гэты клас узялася Лілія Платонаўна Макарава. У класе Ліліі Платонаўны нестае 15 камплектаў падручнікаў для школы з беларускаю моваю навучання — акурат гэтулькі, колькі вучняў у яе ў класе. Гэтай нататкаю адначасна звяртаюся да настаўнікаў і бацькоў — чытачоў «Нашага слова»: калі можаце, прышліце хоць адзін камплект падручнікаў для другога класа па адрасе:

Мінск, плошча Свабоды, 7, Беларускі музычны ліцэй.

На здымку: Лілія Платонаўна Макарава сярод ліцэістаў.

Тэкст і фота А. КАЛЯДЫ.

## ВІНШУЕМ

Першымі медалямі Францішка Скарыны ўзнагароджаны Вярхоўным Саветам БССР У. Басалыга, Р. Барадулін, А. Белакоз, М. Булахаў, Н. Гілевіч, У. Гром, М. Дрынеўскі, М. Ермаловіч, А. Жураўскі, В. Іпатава, А. Клышка, В. Каваленка, А. Лойка, А. Мальдзіс, І. Навуменка, Я. Нёміроўскі, Г. Нячаева, У. Арлоў, А. Петрашкевіч, Т. Рошчына, З. Санько, Б. Сачанка, М. Ткачоў, В. Чамярыцкі, Г. Шупенька, А. Яновіч.

Рэспубліканская Рада Таварыства Беларускай Мовы імя Францішка Скарыны і рэдакцыя бюлетэня «Наша слова» віншуе спадароў з узнагародаю.

## Сябрына «Унія» ў Львове

З 8 па 12 верасня ў Львове адбыўся з'езд грэка-каталіцкай моладзі Украіны. З гэтай нагоды да Львова была запрошана сябрына ТБМ «Унія».

У часе свайго знаходжання на Украіне маладыя беларускія уніяты вырашылі пэўныя свае пытанні. Украінскія грэка-католікі вельмі прыхільна сустрэлі выхад у свет першага нумара часопіса «Унія». Адбылося шмат цікавых сустрэчаў, у тым ліку сустрэча з Уладыкам Мінрапалітам Уладзімірам Стэрнюком ды рэдакцыяй часопіса «Вера Бацькіў».

А яшчэ беларускія уніяты былі прыемна здзіўленыя з нагоды адсутнасці на Украіне праяваў расейшчыны. Але, як вярнуліся да Менску, настрой рэзка сапсаваўся, калі пачулі вакол сябе гэтак знаёмы з маленства «великий и могучий».

Зміцер БЕЛЕНЬКІ.

## ДЛЯ ЯКОГА НАРОДУ?

Прыйшоў на пошту, каб падпісацца на «Народную газету», якую нібыта будуць выдаваць пры Вярхоўным Савеце БССР, ажно ў каталогу запісана, што газета будзе выходзіць адно на рускай мове. Вось вам і стаўленне да беларусаў, вось вам і закон пра дзяржаўнасць мовы. Гэта дыскрымінацыя нашых элементарных правоў. І назву, як здзек з нас, беларусаў, далі: «Народная...» Для якога народу яны яе збіраюцца выдаваць?

Яўген ПУГАЧ, г. Мінск.

## ДАРАГІЯ СЯБРЫ!

Паведамляем, што Таварыства Беларускай Мовы імя Францішка Скарыны дзеля ажыццяўлення мэтаў, вызначаных Статутам ТБМ па адраджэнні беларускага слова, прымае ахвяраванні ад прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый і прыватных асобаў як на Беларусі, так і ў СССР і за мяжой.

Наш цэнтральны рахунак 700510 у Белжылсацбанку.

Валютны рахунак 000700704 у Знешгандальбанку СССР.

## АБ'ЯВА

Дом адпачынку «Жураўлік» (Мядзельскі раён, узбярэжжа возера Нарач) прыме на працу:

1. Баяніста-акампаніятара.
2. Культарганізатара, які грае на скрыпцы.
3. Культарганізатара, які грае на цымбалах.

Абавязковая ўмова — валоданне беларускаю моваю.

Добраўпарадкаванае жыллё нежанатым і незамужнім і сем'ям без дзяцей прадастаўляецца.

Звяртацца да намесніка дырэктара дома адпачынку Юрася Малахоўскага або ў рэдакцыю «Нашага слова».

## Паважаныя чытачы «Нашага слова»!

Паведамляем вам, што з 1991 г. бюлетэнь Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны ўключаны ў Каталог перыядычных выданняў СССР, індэкс 74975. Выпісаць «Наша слова» можна ў арганізацыях «Саюздруку» або ў любым аддзяленні сувязі СССР. Выходзіць штомесяц, падпісная цана на год — 2 руб. 40 кап.

Выпісвайце і чытайце «Наша слова»! Дасылайце на адрас рэдкалегіі допісы, артыкулы і іншыя матэрыялы, звязаныя з адраджэннем беларускай мовы, нацыянальнай культуры і гістарычнай спадчыны.



Пры перадрукоўцы матэрыялаў рабіце спасылку на «Наша слова»

Рэдакцыя не рэцэнзуе рукапісаў і назад не вяртае.

Наш адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13.
Тэлефон рэдакцыі 33-25-11

Бюлетэнь выходзіць раз на месяц.
Выданне безганарарнае.

МВПА імя Якуба Коласа.
Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка».
Наклад 10 000 паасобнікаў. Заказ 2179. Індэкс 74975.

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012